ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БЛЁК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б

Без 19

## АБ МІЖНАРОДНЫМ СТАНОВІШЧЫ

## № 13—14 (28—29)






ЛІПЕНЬ

ПАРТЫЙНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК—1933

Тэхрэдактар *І. Мілешко*
Карэктар *Ляўданскі*
Здана ў друкарню 29/VI-33 г.
Падпісана да друку 3/VII-33 г.
Набрана на л/н. № 6.

Заказ № 1616. 10.000 экз. Уп. Галоўлітбелу №а 542.

Друкарня імя Сталіна

4/2

ДЛЯ ЗАЎВАГ

## ЯК РЫХТУЮЦЦА КАПІТАЛІСТЫЧНЫЯ КРАІНЫ ДА НОВАЙ ВАЙНЫ

Імпэрыялістычныя краіны ліхаманкава рыхтуюцца да вайны. Гэта — бясспрэчны факт. Аб ім так многа гавораць, аб ім так многа пішуць, што ўспрыйманьне ўсёй грознасьці міжнароднай сітуацыі некалькі нават прытупілася. Тым больш мы павінны ў дзень 1 жніўня, у дзень пачатку сусьветнай імпэрыялістычнай вайны заклікаць працоўных усіх краін да пільнасьці, да сугубай настарожанасьці, бо ўся міжнародная абстаноўка насычана выбуховым матэрыялам, а па капіталістычным сьвеце бегаюць усякія Розенбэргі і Чэрчылі з палаючым факелам у руках. Аб нямінучасьці вайны сусьветны капіталістычны друк піша цяпер з такім-жа спакоем, як аб чымсьці для ўсіх ужо бясспрэчным. Калі ідзе аб чым-небудзь спрэчка, то толькі аб адным, **калі** вайна выбухне. Афіцыёз аўстрыйскага ўраду

«Рэйхспост» 20 лютага гэтага году пісаў:

«У поводах для конфлікту няма цяпер недахвату. У сучасны момант, магчыма, іх значна больш, чым было ўвосну 1914 г.».

Былы францускі міністр Альсід Эбрэ ў артыкуле, зьмешчаным у «Пэстэр Лёйд» ад 23 красавіка, пісаў:

«Калі прыняць пад увагу, што пераможцы не раззброяцца, то проблема раззбраеньня будзе ўяўляцца ў наступным выглядзе: або пераможцы дапусьцяць узбраеньне пераможаных, або яны ўжывуць меры, каб сілай перашкодзіць падобнаму ўзбраеньню. У першым выпадку, г. зн. у выпадку, калі яны дапусьцяць узбраеньне пераможаных, трэба лічыцца з вайной ня ў вельмі аддаленым будучым, паколькі пераможцы будуць супраціўляцца ўсякаму перагляду дагавароў мірным шляхам да таго часу, покуль пераможаныя краіны ня будуць здольны дабіцца рэвізіі сіл. У другім выпадку, г. зн. у выпадку калі пераможцы будуць перашкаджаць узбраеньню пераможаных, трэба лічыцца з безадкладнай вайной».

Такім чынам, мы ўжо маем два сьведчаньні, і прытым дастаткова аўторытэтных, у якіх пытаньне аб вайне ставіцца зусім конкрэтна,



ДЛЯ ЗАЎВАГ

зрычым адзначаецца той новад, які да гэтай вайны можа прывесьці, а іменна імкненьне капіталістычных краін, прайграўшых сусьветную вайну, зноў узброіцца, каб сілай зброі ліквідаваць Вэрсальскі дагавор і перакроіць карту Заходняй і Паўднёва-ўсходняй Эўропы па-новаму на аснове новых суадносін сіл.

8 сакавіка гэтага году вядомы французскі журналіст Эмар, які зьмяшчае свае артыкулы ў «Лібэртэ», ставіў пытаньне наступным чынам: «Ці будзем мы ваяваць у маі?» І на гэтае пытаньне Эмар адказваў:

> **«На днях у «Эко дэ Пары» гаварылася аб тым, што вайна не зьяўляецца яшчэ нямінучай. З свайго боку мы павінны заявіць, што ўсё цяпер адбываецца так, як павінна адбывацца напярэдадні вайны».**

Мы падалі гэтыя цытаты для таго, каб праілюстраваць, наколькі халоднакроўна піша буржуазны друк ня толькі аб нямінучасьці вайны, але і аб яе тэрмінах.

Таксама халоднакроўна буржуазны друк абгаварвае нямінучасьць вайны ня толькі на эўропейскім вучастку сусьветнага фронту, але і на англа-амэрыканскім і япона-амэрыканскім. Токійская газэта «Міако» пісала 11 ліпеня:

«Хмары над япона-амэрыканскімі адносінамі, якія пачалі рассейвацца з прыходам ураду Рузвэльта да ўлады, зноў згушчаюцца і аднаўленьне морскага суперніцтва немінуча».

Гэтыя разважаньні японскай газэты супалі па часу з прадстаўленьнем японскім морскім генэральным штабам новай праграмы морскага будаўніцтва, якая прадугледжвае пабудову 33 ваенных караблёў.

У амэрыканскім журнале «Ньюзуіык» амаль адначасова паявіўся артыкул Марціна Сомерса, былага корэспондэнта гэтага журналу ў Кітаі. Сомерс разглядае ўмовы і магчымасьці вайны паміж Злучанымі штатамі і Японіяй. Ён піша:

«Чаго трэба нам чакаць ад Японіі заўтра? У нас ёсьць дастаткова падстаў чакаць вайны. У мяне ёсьць зьвесткі з аўторытэтнай крыніцы аб тым, што ў часе нядаўняга наведваньня Белага дому (рэзыдэнцыя Рузвэльта ў Вашынгтоне.— Рэд.) Эрыо і Макдональдам Рузвэльт запытваў, якая будзе позыцыя Францыі і Англіі ў выпадку амэрыкана-японскай вайны».

Такім чынам, мы бачым, што пытаньне аб немінучасьці вайны не сходзіць са старонак сусьветнага друку. І гэта не выпадкова, з усім

заканамерна. Буржуазны друк піша аб немінучасьці вайны, бо падрыхтоўка да гэтай вайны ідзе поўным ходам.

Паколькі вайна наогул зьяўляецца працягам палітыкі пэўных кляс, але толькі іншымі сродкамі, — сучасныя міжнародныя супярэчнасьці і заблытаныя міжнародныя палітычныя адносіны ствараюць глебу для нябывалага росквіту ўзбраеньняў і ваенных падрыхтаваньняў. Увесь капіталістычны сьвет ліхаманкава ўзбройваецца. Вядома, ні адна буржуазная краіна не раскрые сваіх ваенных сакрэтаў, не апублікуе даных аб становішчы сваіх узбраеньняў і не раскрые тых спосабаў, пры дапамозе якіх яна павялічвае ў многа разоў афіцыйна зацьверджаныя ваенныя бюджэты. Таму дарэмна зьвяртацца да штогоднікаў Лігі Нацый, у якіх зьмяшчаюцца зводкі ўзбраеньняў, бо гэтыя зводкі складаюцца на аснове афіцыйных даных. Але ёсьць рад работ, у якіх зроблены спробы вызначыць аб'ём затрат капіталістычных краін на ўзбраеньні.

Перш за ўсё, калі падлічыць усе расходы прама або ўскосна зьвяза-

**ДЛЯ ЗАЎВАГ**

...ных з задачай падрыхтоўкі вайны, то акажацца, што ў 1931 г. капіталістычны сьвет зрасходваў на ўзбраеньні каля 8 млрд. доляраў. Калі выдічыць з гэтай грандыёзнай цыфры затраты на пэнсіі і плацяжы па ваенных даўгох, то агульная **сума прамых затрат на новыя ўзбраеньні складзе каля 6 млрд. доляраў.** Пяць буйных імпэрыялістычных дзяржаў: **Англія, ПАЗШ, Францыя, Італія і Японія трацяць у сучасны момант амаль у тры разы больш на ўзбраеньні, чым у 1913 г.**

Англійскі журнал «Ньюстэтсман» падлічвае, што расходы, зьвязаныя з ліквідацыяй мінулых войн, і расходы на падрыхтоўку новых войн складаюць **63 проц. бюджэту** Англіі, 70 проц. бюджэту Францыі і амаль 80 проц. Злучаных штатаў. Іншымі словамі, каля ³/₄ **бюджэтных расходаў вялікіх дзяржаў ідзе на ваенныя патрэбы.**

Буржуазія адмаўляе ў дапамозе мільёнам беспрацоўных, але на падрыхтоўку новых войн сродкі трацяцца ў вялікай колькасьці. Буржуазія ўрэзвае ўсе расходы на сацыяльныя і культурныя патрэбы, на ахову здароўя. але яна верна ахоў-

вае свой ваенны бюджэт, узмоцнена яго забясьпечваючы ўсё новымі і новымі сродкамі. **Ваенная прамысловасьць капіталістычных краін ня ведае крызісаў, яна ўвесь час расьце, ня гледзячы на крызіс.**

Агульны размах сучаснага мілітарызму значна перавышае разьмеры нават самых напружаных па гонцы ўзбраеньняў даваенных гадоў. Колькаснасьць армій у буйных капіталістычных дзяржавах трымаецца ў асноўным на ўзроўні 1913 г. У некаторых-жа дзяржавах, як напрыклад у Японіі, узброеныя сілы за апошнія два гады павялічыліся амаль на 50 проц. (у Японіі ў 1931 г. армія налічвала 220 тыс. чалавек, цяпер-жа ў ёй налічваецца звыш 320 тыс.). Другарадныя дзяржавы, якія ўзьнікл́і або пашырыліся пасьля вайны 1914—1918 гг., маюць арміі, якія па сваім колькасным складзе набліжаюцца да армій вялікіх дзяржаў, а іншы раз нават перавышаюць іх.

Асабліва шырока выкарыстоўваюцца для мэт вайны навука, тэхніка, прамысловасьць і транспорт (якія па сутнасьці справы ўжо цяпер мобілізаваны для вайны). На гэтай базе

ДЛЯ ЗАЎВАГ

колёсальна разгарнулася ваенная баявая і дапаможная тэхніка: павялічылася колькасьць і палепшылася якасьць (хуткастрэльнасьць, забойнасьць) так званых «старых» сродкаў барацьбы—кулямётаў, артылерыі, і ўзьнiклі па сутнасьці новыя баявыя машыны ў выглядзе сучасных танкаў і самалётаў, сродкаў хімічнага нападу, тэлемэханічных сродкаў для кіраваньня мэханізмамі на адлегласьці.

У параўнаньні з гэтымі новымі сродкамі барацьбы тэхніка канца сусьветнай вайны здаецца, ня гледзячы на ўсю яе страшэнную разбуральнасьць, адсталай і вельмі недасканалай. Ня толькі на сухазем'і і ў паветры, але і на моры ідуць нясупынныя ўдасканаленьні ваеннай тэхнікі: сучасныя караблі ўладаюць павышанай супроць мінулага хуткасьцю ходу і дальнасьцю плаваньня, яны нясуць на сабе больш шматлікае і магутнае ўзбраеньне, яны маюць вялікую колькасьць новых караблёў—модэрнізаваных і дасягнуўшых вялікіх разьмераў падводных лодак, авіяносцаў, крэйсэраў, торпэдных катэраў і т. д.

Трэба адзначыць, што разьвіцьцё

узбраеньняў капіталістычнага сьвету ажыцьцяўляецца ня толькі ў парадку агульнай гонкі ўзбраеньняў і спаборніцтва «ўсіх супроць усіх». Гэтае разьвіцьце ўзбраеньняў, апрача свайго шырокага размаху, характарызуецца таксама тым, што яно зьвязана з падрыхтоўкай імпэрыялістаў да пэўных узброеных канфліктаў у канкрэтных ачагох барацьбы. У прыватнасьці англа-амэрыканскія супярэчнасьці, якія абвастрыліся, і супярэчнасьці на Ціхім акіяне выклікаюць жорсткае суперніцтва Амэрыкі, Англіі і Японіі па частцы ваенна-морскіх узбраеньняў.

У сувязі з японскай пагрозай захваціць усе ласыя кавалкі ў Кітаі шляхам вайны, якая ўсё расшыраецца, Амэрыка ў выглядзе пагрозы пакідае свой флёт цалкам у водах Ціхага акіяну... да ліпеня 1934 г. Японія ў адказ на гэта праводзіць грандыёзныя ваенна-морскія манэўры ў раёне Каралінскіх і Марыянскіх астравоў, якімі яна ўладае па мандату Лігі нацый, і якіх ня думае аддаваць, ня гледзячы на свой выхад з гэтай «пачэснай» установы. Злучаныя штаты Амэрыкі ў ліпені асыгнуюць 250 млн. доляраў на

ваенна-морскія ўзбраеньні і прымаюць програму ўраду—36 новых караблёў і 4 грандыёзных ваенна-морскіх базы ў абодвых акіянах. У адказ на гэта Японія праз некалькі дзён высоўвае програму свайго морскага міністэрства аб новых ваенна-морскім будаўніцтве, якое павінна перагнаць нават амэрыканскія тэмпы.

Англійская буржуазія з свайго боку прыкладае намаганьні да ўдасканаленьня свайго флёту, разгортваньня авіяцыі і замацаваньня моторызацыі і мэханізацыі арміі. Падобным-жа чынам супернічаюць ва ўзбраеньнях Францыя і Італія. Што датычыць Германіі, то яна, улічваючы несپрыяючыя ў даны момант суадносіны ваенных сіл паміж ёю і францускім ваенным блёкам (Францыя ў 6—8 разоў пераважае ў ваенных адносінах Германію), імкнецца явачным парадкам, у абыход Вэрсальскага дагавору, ажыцьцявіць шырокую програму даўзбраеньняў.

Ужо на сёнешні дзень колькасны склад германскай арміі падвоен супроць штату, устаноўленага ў Вэрсалі, шырока разгорнуты фашысцкія штурмавыя атрады, якія паглынулі



ДЛЯ ЗАЎВАГ

ў сабе ўсе буржуазныя ваенныя арганізацыі Германіі, укараняецца ў германскі рэйхсвэр (армія) авіяцыя, танкі, цяжкая артылерыя, ваенная хімія, тэлемэханіка і, як відаць, бактэрыолёгія. У агульным «разброеная» Германія ўжо мае на сёнешні дзень да паўтара мільёна ўзброеных людзей, што натуральна выклікае трывогу ў Францыі і Польшчы і параджае тэндэнцыі да новых узбраеньняў з боку апошніх.

Але, зразумела, асоба мэтанакіраваная дзейнасьць імпэрыялістаў па ваеннай падрыхтоўцы вядзецца супроць СССР. Ня гледзячы на пасьлядоўную мірную політыку Савецкага саюзу, ня гледзячы на яго вялізарную ўдзельную вагу ў міжнародных адносінах, ня гледзячы на буйныя перамогі мірнай політыкі СССР, ваенная машына імпэрыялістаў, прызначаная для вайны супроць СССР, працуе поўным ходам як на Захадзе, так і на Ўсходзе. Пры гэтым асаблівай увагі заслугоўваюць ваенныя пагрозы брытанскага імпэрыялізму з боку Сярэдняга Ўсходу супроць Савецкага Закаўказьзя і баваўняных раёнаў у Сярэдняй Азіі (пагрозы гэтыя вырысоўваюцца ў форме пад-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

рыхтоўкі англійскай ваеннай азіяцыі ў Іраку і Паўночна-заходняй Індыі, абсталяваньні аэродромаў у Пэрсіі і Афганістане, мэханізацыі і мотарызацыі англа-індыйскай арміі), а таксама пагрозы японскага імпэрыялізму на Далёкім Усходзе.

Праводзімая ў Японіі карэнная рэорганізацыі арміі орыентуецца на падрыхтоўку яе да вялікай вайны супроць СССР. Армія гэтая ўзмацняецца агнявымі сродкамі, танкамі і самалётамі. Апрача таго ліхаманкавымі тэмпамі праводзіцца абсталяваньне ваеннага пляцдарму ў Паўночнай Манчжурыі паблізу граніц СССР. Тут будуюцца аэродромы, склады, басы, чыгункі і грунтавыя дарогі. Тут падрыхтоўваецца армія для ўрываньня ў падыходзячы момант у межы Савецкага Далёкага Ўсходу і Монгольскай народнай рэспублікі. Тут ідзе ажыўленая дзейнасьць белай расійскай і монгольскай эміграцыі.

Характэрнай рысай ваенных падрыхтаваньняў, ажыцьцяўляемых цяпер імпэрыялістамі, зьяўляюцца спэцыяльныя мерапрыемствы па падрыхтоўцы раптоўнага пачатку вайны, без формальнага яе абвяшчэньня.

Для гэтай мэты ў буржуазных дзяржавах створаны адборныя, значна фашызаваныя ваенныя часьці, называемыя часьцей за ўсё «арміямі прыкрыцьця», ёсьць напагатове скрытыя запасы ўзбраеньня і некаторая частка ваенных фашысцкіх кадраў, прызначаных для распальваньня ваеннага пажару, з такім разьлікам, каб паставіць масы перад адбыўшымся фактам. Такога роду «ўпаўзаньне ў вайну» (як трапна азначыў т. Молатаў) стала ўлюбёным спосабам буржуазных ваенных спэцыялістаў пры распрацоўцы ваенных плянаў. Наглядны ўзор гэтага сорту дае Японія, якая вядзе вайну з Кітаем пры фармальных захаваньнях з ім дыплёматычных сувязяй.

## ЧАМУ СУСЬВЕТНАЯ БУРЖУАЗІЯ ЛІХАМАНКАВА РЫХТУЕЦЦА ДА ВАЙНЫ

Навошта ўзбройваюцца капіталістычныя краіны? На гэтае пытаньне т. Сталін адказаў на XVI зьезьдзе партыі:

«Зразумела не для гутарак, а для вайны. А вайна патрэбна імпэрыялістам, бо яна ёсьць адзіны сродак для перадзелу сьвету, для перадзелу

**рынкаў збыту, крыніц сыравіны, сфэр прылажэньня капіталу».**

На глебе паглыбленьня сусьветнага экономічнага крызісу адбываецца лютая барацьба імпэрыялістаў за новыя рынкі, за новы перадзел сьвету. Гандлёвая вайна, высокія таможаныя перагародкі, націск на колёніі, спэкулятыўныя махінацыі з паніжэньнем курсу валют (з мэтай затапіць сусьветныя рынкі таннымі таварамі і выцесьніць з іх сваіх конкурэнтаў), жорсткая конкурэнцыя ў абсягу экономічных сфэр уплыву, цяжба вакол проблемы даўгоў, крэдытаў і пазык і фактычны разрыў сусьветных гаспадарчых сувязяй — такія асноўныя формы і мэтоды барацьбы капіталістаў за зьнешнія рынкі збыту, якія звузіліся. Наступленьне на зарплату рабочых, разарэньне і аграбленьне сярэдніх слаёў насельніцтва, павялічэньне беспрацоўя і галадоўкі сярод працоўных мас, мобілізацыя фашысцкіх рэзэрваў і зьверскі тэрор супроць рэволюцыйных барацьбітоў пролетарыяту — такія іх спосабы захаваньня свайго панаваньня ўнутры тэй або іншай буржуазнай краіны.

Зусім відавочна, што такая напру-

жанасьць міждзяржаўных і міжкласавых адносін да крайнасьці абвастрае ўсе супярэчнасьці капіталістычнага сьвету і параджае небясьпеку буйных узброеных конфліктаў.

З асаблівай сілай сказваюцца цяпер тыя імпэрыялістычныя супярэчнасьці, якія закладзены ў сыстэме політыкі імпэрыялістаў, ажыцьцяўляемай імі на працягу ўсяго пэрыоду пасьля сусьветнай вайны 1914—1918 гг. На гэтыя супярэчнасьці ўказваў у свой час вялікі Ленін, іх ня раз грунтоўна аналізаваў т. Сталін і падкрэсьліваў у сваіх рашэньнях Комінтэрн. Гэта, па-першае, англа-амэрыканскія супярэчнасьці, якія складаюць вось супярэчнасьцяй унутры імпэрыялістычнага сьвету; гэта па-другое, ціхаакіянская проблема, абвастрэньне якой у сучасны момант ідзе асабліва рэзка ў плоскасьці сутычкі Японіі і Амэрыкі ў барацьбе за панаваньне на Ціхім акіяне, пры адначасовым пераплятаньні інтарэсаў Англіі і іншых дзяржаў: гэта, па-трэцяе, проблема рэвізіі вэрсальскай сыстэмы і ўсіх зьвязаных з ёю дагавароў у Эўропе, у асаблівасьці-ж імкненьне германскага імпэрыялізму да

пераглядзу граніц у Эўропе і калёніяльных уладаньняў. Усё гэта такія пытаньні, якія ў імпэрыялістычным сьвеце да гэтага часу бяз войн не вырашаліся.

Можна сказаць, што абвастрэньне ўказаных трох буйнейшых супярэчнасьцяй у капіталістычным лягеры ў даны момант дасягнула тэй стадыі, на якой сутычка экономічных супярэчнасьцяй імпэрыялістаў суправаджаецца ўжо ўзаемнымі пагрозамі, ліхаманкавай гонкай узбраеньняў і шырока разгорнутай шовіністычнай пропагандай, якая нагадвае атмосфэру пярэдадня мінуўшай сусьветнай імпэрыялістычнай вайны.

Апрача таго вакол гэтых буйнейшых імпэрыялістычных супярэчнасьцяй сутыкаюцца і пераплятаюцца і іншыя рознастайныя супярэчнасьці імпэрыялістаў, напрыклад, барацьба Італіі супроць француской гегемоніі ў Эўропе, барацьба яе за ўплыў у даліне Дунаю, за захваты на Балканах і ў басэйне Міжземнага мора. У канчатковым выніку як на Захадзе, так і на Ўсходзе ствараюцца складаныя вузлы імпэрыялістычных супярэчнасьцяй і надрыхтоўваюцца

небясьпечныя ачагі непасрэднай ваеннай пагрозы.

Аднак усе гэтыя супярэчнасьці ў лягеры імпэрыялістаў перакрываюцца асноўнай супярэчнасьцю сучаснай эпохі — супярэчнасьцю паміж краінай будуючагася соцыялізму, СССР, і загніваючым капіталістычным сьветам. У сучаснай абстаноўцы развалу адноснай стабілізацыі капіталізму і найвялікшых, рашаючых посьпехаў соцыялістычнай будоўлі ў СССР супярэчнасьць гэтая дасягнула нябывалага паглыбленьня. Нянавісьць капіталістаў да СССР узрасла, узмацнілася тэндэнцыя капіталістаў да зжываньня, хоць-бы часовага, сваіх супярэчнасьцяй за лік Савецкага саюзу.

Збываецца на справе прадсказаньне тав. Сталіна, зробленае ім на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б) аб тым, што

> **«ўсякі раз, калі абвастраюцца супярэчнасьці сярод імпэрыялістаў, яны задаюць сабе пытаньне, а ці нельга тую або іншую супярэчнасьць або ўсе супярэчнасьці, разам узятыя, вырашыць за лік СССР».**

Характэрнымі праяўленьнямі гэтай тэндэнцыі імпэрыялістаў зьяўляюцца такія падзеі, як заключэньне

ДЛЯ ЗАЎВАГ



так званага пакту чатырох дзяржаў (Англіі, якая зьявілася ініцыятарам гэтага пакту, а таксама Італіі, Францыі і Германіі), пакту, які мае перш за ўсё **антысавецкае вастрыё**: спроба англійскіх цьвёрдалобых сваім актыўным антысавецкім выступленьнем і ўвядзеньнем эмбарго (забарона) на савецкія тавары ўзбудзіць агульную антысавецкую актыўнасьць капіталістычнага сьвету; провокацыйныя выпады германскіх нацыянал-соцыялістаў супроць СССР і супроць савецкіх установў і грамадзян у Германіі, гнусьнейшая кампанія іх «па збору ахвяраваньняў у карысьць галадаючых нямецкіх братоў у СССР», сьмехатворнае, але ў дастатковай ступені наглае выступленьне германскай дэлегацыі на Лёнданскай экономічнай конфэрэнцыі з мэморандумам аб неабходнасьці падтрымаць захватніцкія пляны Германіі ў адносінах Усходняй Эўропы, у асаблівасьці ў бок СССР. Не падлягае ніякаму сумненьню, што германскі фашызм, які марыць ня толькі аб аднаўленьні былой магутнасьці германскага імпэрыялізму, але і аб грандыёзьнейшых новых захватах, прабуе і будзе ў далейшым

спэкуляваць на клясавай нянавісьці капіталістаў да СССР. Іменна па гэтай лініі ён будзе імкнуцца знайсьці глебу для часовай згоды са сваімі конкурэнтамі і пераможцамі, іменна ў гэтым напрамку ён будзе орыентаваць свае зьнешнепалітычныя комбінацыі і манэўры.

Але асабліва сур'ёзнай і актуальнай пагрозай для СССР зьяўляюцца найшырэйшыя ваенныя падрыхтаваньні Японіі паблізу граніц Савецкага саюзу ў захваченай ёю Манчжурыі і Унутранай Монголіі. Падрыхтаваньні гэтыя зьвяртаюць на сябе тым большую ўвагу, што пэўная частка ваенных кругоў Японіі, асабліва-ж ваенна-фашысцкая кліка, прабуе ўжо цяпер ствараць рознага роду провокацыйныя повады для пагоршаньня адносін паміж Японіяй і СССР. З гэтага пункту гледжаньня прыходзіцца з вялікай увагай і з найвялікшай настарожанасьцю адносіцца да такога роду зьяў, як напады розных бандыцкіх шаек на КУЧ, якія не спыняюцца, усялякія перашкоды нормальнай рабоце гэтай чыгункі, паклёпніцкая антысавецкая кампанія ў некаторых газэтах у Японіі і Манчжоу Го. Такім

ДЛЯ ЗАЎВАГ

чынам зусім відавочна, што імпэрыялістычныя супярэчнасьці ня толькі не ўстараняюць, але, наадварот, вядуць да ўзмацненьня ваеннай небясьпекі супроць СССР.

Аб вайне ня толькі гавораць і пішуць, ня толькі ліхаманкава рыхтуюцца да яе, але ўжо ваююць. З верасьня 1931 г. на Далёкім Усходзе ідзе вайна паміж Японіяй і Кітаем. Але цяперашняя вайна паміж Японіяй і Кітаем па сутнасьці зьяўляецца таксама вайной і паміж Японіяй і Амэрыкай, бо вайна ідзе за перадразьмеркаваньне сфэр уплыву на Далёкім Усходзе. Гэта азначае, што на парадак дня пастаўлена ціхаакіянская проблема ва ўсёй сваёй сукупнасьці, якую ПАЗШ, Англія і Японія будуць вырашаць сілай зброі. Але паколькі ПАЗШ і Англія зьяўляюцца сусьветнымі дзяржавамі, то ўсякая вайна паміж імі нямінуча павінна ператварыцца ў сусьветную вайну. Усім вядома, што японцы ў сваім нападзе на Кітай карысталіся і карыстаюцца падтрымкай Англіі, якая імкнецца скарыстаць Японію як аднаго са сваіх саюзьнікаў у баёх супроць ПАЗШ.

Лёнданская конфэрэнцыя наглядна



ДЛЯ ЗАЎВАГ

паказала ўсім, што асноўныя супярэчнасьці—гэта супярэчнасьці паміж ПАЗШ і Англіяй. На гэтай конфэрэнцыі гэтыя два імпэрыялістычныя гіганты сутыкнуліся паміж сабой. І ў часе гэтай сутычкі з поўнай дакладнасьцю выявіліся абрысы будучай вайны. Валютная вайна, пачатая Англіяй супроць ПАЗШ, прывяла да энэргічнай контратакі долару. Англія, пачынаючы валютную вайну супроць ПАЗШ, мела намер захваціць амэрыканскія рынкі збыту ў Паўднёвай Амэрыцы і на Далёкім Усходзе. Англія пачала валютную вайну, каб радам сабраных разам экономічных сродкаў наступленьня вырваць у ПАЗШ іх сусьветную экономічную гегемонію, лічачы, што экономічны крызіс у дастатковай меры расхістаў магутнасьць яе амэрыканскага суперніка. Амэрыка адказала контрнаступленьнем. **Усе спробы дабіцца на Лёнданскай конфэрэнцыі палюбоўнай згоды, г. зн. палюбоўнага перараз'меркаваньня рынкаў збыту, ні да чаго не прывялі.** А гэта азначае, што экономічная вайна будзе ўсё больш узмацняцца. Тав. Сталін у сваім дакладзе на XVI з'ездзе партыі сказаў:

**«Ня можа быць ніякага сумненьня, што ў сувязі з растучым крызісам барацьба за рынкі збыту, за сыравіну, за вываз капіталу будзе ўзмацняцца з кожным месяцам, з кожным днём.**

**Сродкі барацьбы: таможаная палітыка, танны тавар, танны крэдыт, перагрупоўка сіл і новыя ваенна-палітычныя саюзы, рост узбраеньняў, падрыхтоўка да новых імпэрыялістычных войн, нарэшце —вайна».**

З моманту прамовы т. Сталіна мінула тры гады. Увесь ход разьвіцьця падзей бліскуча пацьвердзіў прадсказаньні правадыра партыі т. Сталіна. Мы маем цяпер **разгорнутую экономічную вайну,** якая вядзецца пры дапамозе высокіх таможаных тарыфаў, пры дапамозе таварнага і валютнага дэмпінгу, мы наглядаем перагрупоўку сіл і ўтварэньне новых ваенна-політычных саюзаў, шалёную гонку ўзбраеньняў і шырокую організацыйную і ідэолёгічную падрыхтоўку да новых імпэрыялістычных войн. Уся міжнародная абстаноўка, абвостраная да крайнасьці разьвіцьцём сусьветнага крызісу капіталізму, цяжарна вайной. Вось чаму аб вайне гаворыць буржуазны друк як аб падзеі бліжэйшага часу.

XII пленум ВККІ ў сваёй рэзолю-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ны падкрэсьліў, што ў ходзе разьвіцьця агульнага крызісу капіталізму выявіўся пэўны **пералом**, своеасаблівая раскачка антаганістычных сіл, якая адбываецца мясцамі бурна, мясцамі затрымліваецца.

**«У пэўных, надзвычай важных вузлавых пунктах антаганістычныя сілы ўжо разьвязваюцца для сутычкі. Надышоў канец адноснай стабілізацыі капіталізму. Але яшчэ няма непасрэднай рэвалюцыйнай сітуацыі ў важнейшых і рашаючых капіталістычных краінах. У сучасны момант адбываецца іменна ПЕРАХОД да новага туру буйных сутычак паміж клясамі і паміж дзяржавамі, да новага туру рэвалюцый і войн».**

Патрэбна сказаць, што буржуазныя эканомісты і палітыкі, выступаючы ў сваім асяродзьдзі, дастаткова шчырыя. Так, напрыклад, відны амэрыканскі эканоміст Малеры, выступаючы 29 сьнежня 1931 г. перад выбранай буржуазнай аўдыторыяй, заявіў:

**«Ні адзін урад ніколі яшчэ не прыпыніў ні аднаго крызісу іншым спосабам, апрача вайны, і калі падобны выхад з крызісу прадстаўляе сабой небясьпеку, небясьпечна таксама не папрабаваць гэтага зрабіць».**

У амэрыканскім вельмі салідным

ДЛЯ ЗАЎВАГ

альманаху «Норс амэрыкен рэв'ю» Пэйтон Вэрз айкер, у артыкуле пад загалоўкам «Чаму ня новая вайна?» прабуе падбадзёрыць сваіх братоў па клясе, рысуючы перад імі выгады вайны. Ён піша:

**«Калі я прабую знайсьці практычную справу, якая магла-б зьвярнуць на зямлю добрыя часы, я знаходжу толькі адзін сродак—нам патрэбна новая вайна, якая прадаўжалася-б больш, забіла-б больш людзей, разбурыла-б больш цэркваў і абыйшлася-б даражэй, чым апошняя».**

А орган германскай буржуазіі «Абарона і веды» (май 1931 г.) па тым-жа пытаньні піша:

**«З пункту гледжаньня цьвярозага экономіста вайна зьяўляецца гаспадарчым прадпрыемствам буйнейшага маштабу».**

Гэтыя дзьве цытаты ўскрываюць перад намі захаваныя мары буйнай буржуазіі. Капіталізм задыхаецца ад нераўытворчасьці. Новых рынкаў няма, плацежаздольны попыт дзякуючы разьвіцьцю крызісу падае. Патрэбны нейкія надзвычайныя рынкі збыту. І дзяльцы знаходзяць гэты рынак у вайне, якая, па іх думцы, зьяўляецца ня толькі выхадам з крызісу, але і выгодным прадпрыемствам, на якім можна ўзбагаціцца.

Ня толькі вайна, але, як было ўказана вышэй, і падрыхтоўка да вайны, гонка ўзбраеньняў зьяўляецца выгодным прадпрыемствам для буржуазіі. Фабрыканты ваеннай прамысловасьці разьвіваюць шалёную прапаганду, каб у яшчэ большай меры паскорыць момант вайны.

Ва ўрадах буржуазных краін засядаюць агенты ваеннай прамысловасьці, буйныя акцыянэры, **іх асабісты дабрабыт цесна зьвязан з вайной.** У якасьці прыкладу пададзім хоць-бы Англію. Орган англійскіх незалежнікаў «Форуорд» нядаўна зьмясьціў артыкул, у якім раскрыў сувязі раду англійскіх дзяржаўных дзеячоў з ваеннай прамысловасьцю. «Форуорд» указвае, што авіяцыйная фірма «Віккерс», філіял вядомага ваенна-прамысловага канцэрну, зьяўляецца «каналам, праз які многія відныя грамадзкія дзеячы ўклалі свае капіталы ў фабрыкацыю сьмерці». У ліку гэтых акцыянэраў газэта называе сучаснага **ваеннага міністра лёрда Хэйльшэма, міністра калёній Кэнліф-Лістэр, міністра ўнутраных спраў Гільмура, быўшага міністра фінансаў Робэрта Хорна, біскупа Хірфорцкага** і т. д.



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Вядомая авіяцыйная фірма «Армстронг Сідлі Дэвэлёпмэнт К°» лічыць у сьпісах сваіх акцыянэраў прама або праз іншыя дочарныя прадпрыемствы **Балдуіна, міністра народнай асьветы Пэры, лёрда Лёйда** і т. д.

Орган незалежнікаў, адзначаючы, што дырэктарамі ваеннай прамысловасьці зьяўляюцца дзеячы ваеннага і морскага ведамства, правільна піша, што **«ваенныя фірмы заўсёды імкнуліся мець дырэктарамі людзей гэтага тыпу».** Можна паверыць, што ў іх ёсьць грунтоўныя падставы для такога выбару.

У дзень 1 жніўня працоўныя нашай краіны павінны яшчэ раз успомніць аб уроках сусьветнай вайны і аб гэтых «фабрыкантах сьмерці», якія не пакладаючы рук рыхтуюць чалавецтву новую крывавую лазьню.

## ШТО АДБЫВАЕЦЦА НА ДАЛЁКІМ УСХОДЗЕ

### Якое значэньне мае Кітай для імпэрыялістычных дзяржаў

Кітай з яго 450-мільённым насельніцтвам зьяўляецца для імпэрыялістычных дзяржаў перш за ўсё сфэрай выгаднага прымяненьня капіта-

лаў, якія даюць вялізарныя звышпрыбыткі.



Зацікаўленасьць імпэрыялістычных дзяржаў у Кітаі ў інвэстыцыях (укладаньне капіталаў у якое-небудзь прадпрыемства) і пазыках выражаецца наступнымі данымі (у млн. доляраў) (гл. стар. 27).

На долю прадпрыемстваў, кантралюемых іншакраінным капіталам, прыпадае: 70 проц. здабычы каменнага вугалю, 75 проц. здабычы жалезнай руды, 80 проц. выплаўкі чыгуну, 55 проц. продукцыі тэкстыльнай прамысловасьці, 60 проц. продукцыі табачнай прамысловасьці, 89 проц. капіталу, укладзенага ў электрычныя прадпрыемствы і ўстаноўкі.

| **Краіна** | Пазыкі | Інвэстыцыі | Разам |
|---|---|---|---|
| Японія | 512 | 1809 | 2321 |
| Англія | 461 | 1432 | 1893 |
| ПАЗШ | 200 | 127 | 327 |
| Францыя | 202 | 1 | 203 |

Засільле іншакраіннага капіталу ў транспорце яшчэ больш значнае. 70 проц. капіталу, укладзенага ў чыгункі, зьяўляецца іншакраінным капіталам. 80 проц. тонажу рачнога

і каботажнага флёту належыць таксама іншакраіннаму капіталу.

Асноўны капітал іншакраінных банкаў Кітаю перавышае 600 млн. амэрыканскіх доляраў, у той час як кітайскіх банкаў толькі 150 млн. Іншакраіннаму капіталу належыць у Кітаі 18 концэсій.

Кітай прадстаўляе аграмадны інтарэс для імпэрыялістычных дзяржаў і як рынак сыравіны і як потэнцыяльна найбольш буйны ў сьвеце рынак збыту прамысловых тавараў.

Доля дзяржаў у імпорце і экспорце Кітаю ў 1931 г. (у проц.).

| Краіна | Імпорт | Экспорт |
|---|---|---|
| Японія | 24,6 | 24,2 |
| ПАЗШ | 17,5 | 14,7 |
| Англія (без Гонконга) | 8,1 | 7,0 |

Барацьба паміж імпэрыялістамі за монопольнае становішча на кітайскім рынку ў сувязі з сусьветным экономічным крызісам і японскай інтэрвэнцыяй вельмі абвастрылася.

К 1931 г. ПАЗШ удалося заняць другое месца ў імпорце Манчжурыі, але японская інтэрвэнцыя і ўвядзеньне японцамі пошлін на заграніч-

ныя тавары, увазімыя ў Манчжурыю (пры амаль бясплошлінным увозе японскіх тавараў), нанесьлі гандлю ПАЗШ з Манчжурыяй мацнейшы ўдар. У той-жа час ПАЗШ удалося заняць першае месца ў гандлі Шанхаю. Англія, выкарыстаўшы антыяпонскі бойкот, здолела за апошнія чатыры гады ўтрымаць свае позыцыі ў гандлі з Кітаем. Японія вымушана была зьменшыць сваю долю ў імпорце Кітаю з 29 проц. 1927 г. да 24,6 проц. у 1931 г., але ў той-жа час павялічыла сваю долю ў экспорце з 22 проц. да 24,2 проц.

## Якія інтарэсы японскага імпэрыялізму ў Кітаі

Найбольш буйныя інтарэсы японскі імпэрыялізм мае ў Манчжурыі. Японскія інвэстыцыі складаюць тут 77 проц. усёй сумы інвэстыцый у Кітаі. Манчжурыя зьяўляецца для японскага імпэрыялізму надзвычай важнай базай сыравіны і харчоў. Яна дае штогодна да 10 млн. тон каменнага вугалю, 850 тыс. тон жалезнай руды, 80 тыс. тон нафты. Японія вывозіць з Манчжурыі велізарную колькасьць бабоў, бабовай макухі, масьлічнага семя, пша-

нцы, скур, футраў і значную колькасьць шэрсьці і лесу.

Камандныя вышыні экономікі Манчжурыі захвачаны японскім капіталам. У Манчжурыі арудуе гіганцкі японскі концэрн «Компанія ПМЧ», які контролюе капітал у 1,1 млрд. іен (1 іена=1,04 рубля).

Японскі імпэрыялізм мае буйныя інтарэсы і ў іншых раёнах Кітаю. Японскія капіталаўкладаньні ў Шанхаі перавышаюць 300 млн. іен, у Шаньдуні 130 млн. іен, у Ханькоу 40 млн. іен і ў Цяньцзіне 35 млн. іен.

Японскаму капіталу ў Кітаі належыць 45 проц. усяго ліку верацён. На долю контролюемых японскім капіталам прадпрыемстваў прыпадае 35 проц. усёй здабычы каменнага вугалю. Японія вывозіць з Кітаю 60 проц. здабычы жалезнай руды і да 40-50 проц. выплаўкі чыгуну.

### Вялікі стратэгічны плян заваёўніцкай політыкі японскага імпэрыялізму

Пачаўшы з верасьня 1931 г. вайну супроць Кітаю, японскі імпэрыялізм задаўся мэтай ажыцьцяўленьня даўно распрацаванага пляну заваёўніцкай політыкі. Найбольш яскравым дакумантам, характарызуючым гэты плян, зьяўляецца мэморандум па-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

мерыдзга прэм'ер-міністра барона Танака. Плян гэты прадугледжвае ня больш і ня менш як заваяваньне ўсёй усходняй часткі азіяцкага матэрыка радам пасьлядоўных опэрацый. Першай і важнейшай опэрацыяй зьявілася заваяваньне Манчжурыі як сыравіннай базы і другой мэтрополіі японскай імпэрыі на азіяцкім матэрыку. Задача гэтая ў сучасны момант японскім імпэрыялізмам выканана. Манчжурыя захвачана цалкам і поўнасьцю і паступова ператвараецца ў японскую колёнію. Яна фактычна кіруецца японскімі саветнікамі на чале з генэралам Муто, армія Манчжурыі ператвараецца ў падсобную сілу японскага імпэрыялізму, чыгункі (за выключэньнем КУЧ) поўнасьцю захвачаны компаніяй ПМЧ, рачны транспорт, капальні і шахты, фінансы Манчжурыі паступова пераходзяць пад контроль «цэнтральнага банку Манчжурыі» (фактычна японскага колёніяльнага банку).

Чарговай задачай японскага імпэрыялізму зьяўляецца, згодна вялікага стратэгічнага пляну, **ператварэньне Манчжурыі ў плацдарм для далейшых опэрацый супроць Кітаю і СССР**. Гэтая задача выканана больш

ДЛЯ ЗАЎВАГ

чым нападаўіну. Закончана будаўніцтва важнай стратэгічнай чыгункі, порт Сейсікі, Гірын Чан-Чунь; вучастку чыгуначнага кольца Хайлунь, Нэтань, ліхаманкава будуецца чыгунка Лафанчнэн—Харбін і рад іншых важных ваенных ліній. Расшырана ў шэсьць разоў сетка ваенных аэродромаў, пабудавана вялікая колькасьць ваенных складаў, пракладзена звыш 2 тыс. кілёмэтраў шосэйных і ґрунтавых дарог, расшыраюцца Карэйскія і Манчжурскія парты і т. д.

Трэцяй задачай агульнага пляну зьяўляецца **захват мангольскіх абласьцей Кітаю** і ператварэньне гэтых абласьцей у плацдарм для далейшага руху на захад, паўночны захад і поўдзень. Гэтая задача выканана ў сваёй першай частцы нападаўіну. Захвачана правінцыя Жэхэ, Барга, Таонань, Солуньскі раён, паўночная частка провінцыі Чахар і намячаецца да захвату астатняя частка Чахару і зьнешняя Манголія. У Жэхэ распачата пабудова стратэгічных чыгуначных ліній (Кайлу, Чыфын і Чаоян-Чэндэ), пракладваюцца шосэ, будуюцца аэродромы, склады. На захвачанай мангольскай тэрыторыі формуюцца мангольскія рэакцыйныя



ДЛЯ ЗАЎВАГ

узброеныя сілы на чале з японскімі саветнікамі і князямі.

У экономічных адносінах проєктуецца здабыча нафты ў Жэхэ і Баргe.ператварэньне ўсходняй часткі Жэхэ ў магутную баваўняную базу і ўсёй Манголіі ў жывёлагадоўчую базу імпэрыі. За адно провінцыя Жэхэ ператвараецца таксама і ў базу снабжэньня опіумам Кітаю і Індыі, што абяцае японскім імпэрыялістам вялізарныя прыбыткі.

Ацэньваючы стратэгічнае значэньне Манголіі і Манчжурыі, барон Танака пісаў аб тым, што гэтыя тэрыторыі могуць быць скарыстаны Японіяй як выходны плянцдарм для заваяваньня ўсёй Усходняй Азіі. Танака спасылаўся пры гэтым на гісторыю заваяваньня Кітаю і Сібіры манголамі.

Чацьвертай задачай зьяўляецца **ўстанаўленьне контролю над Паўночным Кітаем** аж да р. Жоўтай у яе старой плыні (г. зн. уключаючы Шаньдунь). Гэтая задача была пачата выкананьнем у маі 1933 г. Выканана многае, але яшчэ многае не закончана з прычыны рэзкага абвастрэньня супярэчнасьцяй паміж імпэрыялістычнымі краінамі і супраціўленьня ПАЗШ, Англіі і Францыі,



ДЛЯ ЗАЎВАГ

якія маюць у Паўночным Кітаі буйныя інтарэсы. Японскі імпэрыялізм, прасунуўшыся да самага Бэйпіну і Цяньцзіну і ў провінцыі Чахар у раён Долонора, забясьпечыў выгодныя позыцыі для ўстанаўленьня свайго панаваньня ў Паўночным Кітаі. Ён падрыхтоўвае поўную дэмілітарызацыю захваченага раёну і фармаваньне на тэрыторыі гэтага раёну незалежнай ад Кітаю, але затое залежнай ад Японіі, улады. Ён падрыхтоўвае ў той-жа час і рэакцыйныя монархічныя сілы для аднаўленьня ў Паўночным Кітаі монархічнага рэжыму.

## Што азначае японская «тэорыя» «Азія для азіятаў»

Японскія імпэрыялісты вядуць шырокую пропаганду гэтай «тэорыі». Яны прабуюць нажыць сабе політычны капітал на пропагандзе ўтварэньня Лігі азіяцкіх народаў, стараючыся проціпаставіць гэтую Лігу белым народам. Яны імкнуцца скарыстаць найшырэйшае абурэньне прыгнечаных усходніх народаў супроць прыгнятаючых капіталістаў белых нацый, выдаючы сябе прыяцелямі прыгнечаных народаў. Японія

ДЛЯ ЗАЎВАГ

выстаўляецца ў якасьці ратавальніцы азіяцкіх народаў ад іга белых, варта толькі гэтым народам прызнаць вярхоўнае кіраўніцтва Японіі і дапамагчы ёй сваімі рэсурсамі. Імпэрыялістычныя ваўкі выступаюць у авечай скуры толькі-б прыцягнуць да сябе ўвагу і сымпатыі буржуазіі колёніяльных і паўколёніяльных азіяцкіх краін.

За апошнія два гады ў Японіі ўзьнікла некалькі буйных таварystваў, якія пропагандуюць гэтую ідэю. Асабліва трэба адзначыць тайнае таварыства «Коку-р'ю-Кай», якое вядзе актыўную работу ва ўсіх усходніх краінах. Гэтае таварыства мае сваіх агентаў усюды і штучна выкарыстоўвае ў ліку іншых сродкаў і рэлігійную пропаганду.

Шырока пропагандуючы ідэю стварэньня Лігі азіяцкіх народаў пад кіраўніцтвам Японіі—адзінай вялікай усходняй дзяржавы, японскія імпэрыялісты прабуюць у сваёй пропагандзе ў Кітаі выкарыстаць «чырвоную небясьпеку», як сродак прымусу кітайскай буржуазіі і фэодал-мілітарыстаў да няроўнага саюзу з Японіяй. Японскі імпэрыялізм тут выступае ў ролі «ратавальніка» Кітаю ад

ДЛЯ ЗАЎВАГ

«чырвонай небясьпекі». Ён прапануе сябе ў якасьці ката і прыдушальніка кітайскай рэволюцыі, але за «выратаваньне» патрабуе прызнаньня кіруючай ролі Японіі ў жыцьці азіяцкіх народаў і контролю над дзесяткам кітайскіх провінцый.

Карацей кажучы, японскі імпэрыялізм прабуе выкарыстаць сваю глыбока рэакцыйную расавую «тэорыю» ў якасьці падсобнага падманнага сродку сваёй імпэрыялістычнай політыкі.

Зусім відавочна, што гэтыя намаганьні японскага імпэрыялізму асуджаны на поўную няўдачу. Народы Азіі ня пойдуць на вудачку японскага імпэрыялізму, у якія-б прывабныя фарбы гэтая вудачка не афарбоўвалася. Гэтая вузкалобая політыка японскага імпэрыялізму бязумоўна асуджана на правал.

## Якія інтарэсы і політыка брытанскага імпэрыялізму ў Кітаі

Брытанскі імпэрыялізм пасьля японскага стаіць на другім месцы па велічыні капіталаўкладаньняў у Кітаі, але ў абсягу гандлю, пачынаючы з пэрыоду сусьветнай вайны, паступова выцясьняецца з Кітаю сваімі



ДЛЯ ЗАЎВАГ

супернікамі—Японіяй і ПАЗШ. Доля Англіі або колёній у гандлі з Кітаем зьменшылася за апошнія 20 год больш чым на адну трэць, але гэта тым больш прымушае Англію чапляцца за кітайскі рынак.

Брытанскі імпэрыялізм уладае ў Кітаі некалькімі буйнымі концэсіямі, контролюе 35 проц. працягу чыгунак, 20 проц. здабычы каменнага вугалю, 37 проц. тонажу рачнога і каботажнага флёту, уладае 9-цю буйнейшымі докамі ў Кітаі, вялізарнай нерухомай маёмасьцю і буйнейшым банкаўскім капіталам.

Брытанскі імпэрыялізм тэрыторыяльна найбольш зацікаўлен у даліне р. Янцзы, у Паўнёвым Кітаі, дзе ён уладае буйнейшай гандлёва-разьмеркавальнай базай—Гонконгам (апошні зьяўляецца ў той-жа час і ваенна-морскай базай), а таксама ў Паўночным Кітаі (Мукдэн-бэйпінская чыгунка, Кайланскія вугольныя капальні).

Важнае значэньне для брытанскага імпэрыялізму мае таксама Тыбет, які з 1911 г. фактычна знаходзіцца пад поўным контролем Англіі.

Брытанскі імпэрыялізм, сьледуючы прыкладу Японіі, разьвівае цяпер

у Кітаі вялікую актыўнасьць. Ён кінуў у наступленьне супроць провінцыі Сычуань 80-тысячную тыбецкую армію, навучаную ангійскімі інструктарамі і ўзброеную англійскай зброяй. Гэтая англа-тыбецкая армія окупавала амаль цалкам дзьве прылягаючых да Тыбету на ўсходзе кітайскіх провінцый Цынхай і Сыханг і набліжаецца цяпер да граніц провінцыі Сычуань.

Брытанскі імпэрыялізм вядзе цяпер таксама замаскаваныя наступленьні супроць Сыньцзяна, распальваючы нацыянальную варожасьць паміж магомэтанамі і кітайцамі.

Ён рыхтуе разам з тым і паход на Ханькоу паўднёвых фэодал-мілітарыстаў. Ён манэўруе паміж двума сваімі супернікамі—Японіяй і ПАЗШ, ні на хвіліну не забываючы сваіх уласных інтарэсаў. У барацьбе з сваім асноўным праціўнікам—ПАЗШ, ён прабуе аперціся на Японію, скарыстаць апошнюю ў якасьці фактару, зьвязваючага актыўнасьць ПАЗШ. Ён разьлічвае на Японію як на матчымага саюзьніка ў барацьбе супроць СССР і кітайскай рэволюцыі.

**Барацьба за Кітай паміж японскім і амэрыканскім імпэрыялізмам.**

ПАЗШ выступілі на кітайскую арэну са значным спазьненьнем параўнальна з Англіяй і Японіяй. Полем іх актыўнасьці раней зьяўляліся Паўночная і Паўднёвая Амэрыка, Ціхаакіянскія астравы і потым Эўропа. Быстрая індустрыялізацыя ПАЗШ і рост монополістычнага фінансавага капіталу, аднак яшчэ да сусьветнай вайны павярнулі актыўнасьць ПАЗШ у бок Індыі, Японіі, Кітаю. Доля імпорту з Азіі ў ПАЗШ павялічылася з 16,1 проц. у 1914 г. да 28,6 проц. у 1928 г., а доля экспорту ў Азію з 6 проц. да 12,8 проц. адпаведна ад усяго імпорту і экспорту ПАЗШ. Доля ПАЗШ ва ўсім імпорце Кітаю павялічылася з 6 проц. у 1918 г. да 17,5 проц. у 1931 г. у той час, як доля Японіі павялічылася з 20,2 проц. да 24,6 проц. ПАЗШ лічыць цяпер Кітай адным з асноўных сваіх рынкаў—потэнцыяльна самым буйным рынкам у сьвеце. Буйнейшае значэньне мае Кітай для ПАЗШ і як сфэра выгаднага прымяненьня капіталаў. Паміж Японіяй і ПАЗШ на гэтай глебе ідзе ўпорная

лютая ўзрацьба. Амэрыканскі фінансавы капітал пры дапамозе пазык і ўкладаньняў капіталаў у галіны гаспадаркі, зьвязаныя з абаронай краіны (авіятранспорт, радыёсувязь, аўтотранспорт, будаўніцтва аўтодарог) прабуе забясьпечыць уплыў на нанкінскі ўрад. Арэнай яго актыўнасьці зьяўляецца Цэнтральны Кітай і Манчжурыя.

Агульнавядома, што да японскай інтэрвэнцыі амэрыканскі фінансавы капітал арудваў за сьпіной Чжан Сюэ-ляна. Антыяпонская дзейнасьць Чжан Сюэ-ляна ў асноўным накіроўвалася амэрыканскімі саветнікамі, якія знаходзіліся пры ім. У пэрыод інтэрвэнцыі амэрыканскі імпэрыялізм падтрымліваў сувязь з генэралам Ма і Чжан Сюэ-лянам, актывізуючы іх супраціўленьне японцам.

Японскі «вялікі стратэгічны плян» не толькі б'е па інтарэсах ПАЗШ у Кітаі, але і ўзмацняе ваенную магутнасьць Японіі і яе стратэгічныя позыцыі на Ціхім акіяне. Ператвараючы Манчжурыю і Манголію ў свае колёніі, японскі імпэрыялізм, апіраючыся на іх рэсурсы, можа ў ваенных адносінах узмацніцца да такой ступені,

што акажацца пануючым фактарам на Ціхім акіяне.

ПАЗШ ня могуць прымірыцца са стратай або паслабленьнем сваіх позыцый у Кітаі. Іменна таму амэрыканскі імпэрыялізм цяпер энэргічна рыхтуецца да таго, каб даць адпор зарваўшымся японскім імпэрыялістам.

У сувязі з вайной Японії супроць Кітаю ПАЗШ сконцэнтравалі ўвесь свой ваенна-морскі флёт у Ціхім акіяне. Грандыёзныя манэўры амэрыканскага флёту і морскай авіяцыі ў раёне Гавайскіх астравоў сьведчаць аб інтэнсыўнай баявой падрыхтоўцы флёту. Японія адказвае на гэта ня менш унушальнымі манэўрамі свайго флёту і авіяцыі ў раёне мандатных астравоў.

Паміж Японіяй і ПАЗШ пачынаецца новая гонка ўзбраеньняў. Японія мае намер патрабаваць на конфэрэнцыі 1935 г. роўнасьці свайго флёту з флётам ПАЗШ і Англіі. Японскім морскім генэральным штабам распрацавана новая морская програма, якая прадугледжвае пабудову 33 новых ваенных караблёў, коштам каля 350 млн. іен.

Амэрыканскае морскае міністэрства ў сваю чаргу распрацавала



ДЛЯ ЗАЎВАГ

проект пабудовы 30 новых караблёў, коштам у 250 млн. амэрыканскіх доляраў.

ПАЗШ расшырае морскую базу на Гавайскіх астравох і авіябазах на паўночным узьбярэжжы Ціхага акіяну, а Японія ўмацоўвае Курыльскія астравы (востраў Парамушыр). Бонінскія астравы і стварае магутную авіябазу на востраве Фармоза і базу падводных лодак на мандатных астравох.

Рыхтуючыся да вайны з Японіяй, ПАЗШ праяўляюць вялізарную ваенную актыўнасьць у Кітаі. Актыўнасьць гэтая накіроўваецца па лініі стварэньня кітайскага паветранага флёту, буйных аэродромаў, разьвіцьця аўтотранспорту сеткі радыёстанцый. Амэрыканскі імпэрыялізм наступова захватвае паветраныя шляхі ў Кітаі. Уладаючы 45 проц. акцый Амэрыкана-кітайскай компаніі паветранага транспорту, ПАЗШ фактычна контролюе гэтыя шляхі. Дзесяткі амэрыканскіх інструктароў навучаюць кітайскіх лётчыкаў. Амэрыканскія фірмы снабжаюць у крэдыт нанкінскі ўрад навейшымі самалётамі і авіямаёмасьцю. Прадана больш 100 самалётаў і толькі што яшчэ



ДЛЯ ЗАЎВАГ

дадаткова прыняг заказ на выраб 36 навейпных самалётаў.

ПАЗШ прымаюць таксама рад мер фінансавага і экономічнага націску на Японію. Фінансуючы Кітай (нядаўна была дана пазыка 50 млн. доляраў), ПАЗШ распрацоўваюць рад мер да падрыву зьнешняга гандлю Японії і да скарачэньня японскага экспорту ў ПАЗШ і Кітай (павышэньне пошлін на японскія тавары, проект фінансаваньня экспорту ў ПАЗШ кітайскага шоўку і чаю і т. д.).

Паміж Японіяй і ПАЗШ ідзе закулісная барацьба за мандатныя астравы і за галяндзкую нафту. Японія, рыхтуючыся да вайны, стараецца забясьпечыць сабе спабжэньне сыравінай праз галяндзкую Індыю, Сыям і Інда-Кітай. ПАЗШ усяляк разьбіваюць пляны Японіі.

Абодвы супернікі энэргічна рыхтуюцца да схваткі на Ціхім акіяне. Амэрыканскі імпэрыялізм, маючы на Ціхім акіяне двух супернікаў, галоўнага—Англію і адначасова Японію, нясумненна знаходзіцца ў затрудняльным становішчы. Японскі імпэрыялізм, скарыстоўваючы абвастрэньне англа-амэрыканскіх адносін і не перашкаджаючы брытанскай агрэсіі

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ў Заходнім і Паўднёва-Заходнім Кітаі, энэргічна праводзіць у жыцьцё свой стратэгічны плян.

### Падрыхтоўка Японіі да вялікай вайны

Не абмяжоўваючыся вайной супроць Кітаю, японскі імпэрыялізм энэргічна рыхтуецца да вялікай вайны. Манчжурыя падрыхтоўваецца Японіяй у якасьці выходнага плацдарму для нападу на СССР. Аб гэтым сьведчаць усе ваенныя падрыхтаваньні Японіі ў Манчжурыі, а іменна: будаўніцтва чыгунак, шосэ, аэрадромаў, складаў, казарм, узмацненьне ваенна-рачнога флёту на Сунгары і т. д.

Характэрным зьяўляецца вялізарны рост ваеннага бюджэту Японіі. Сума расходаў павялічылася з 454 млн. іен у 1931 г. да 659 млн. іен у 1932 г. і да 820 млн. іен у 1933 г.

За апошнія 2 гады колькаснасьць японскай арміі павялічылася з 220 тыс. чал. да 320 тыс. чал. Паветраны флёт павялічыўся ў два разы. Робіцца замена старога ўзбраеньня новым для ўсіх родаў войск.

Ваенная прамысловасьць Японіі працуе ў 3 зьмены. Распыраюцца

авіяцыйныя, аўтомобільныя, танка- 
выя, хімічныя заводы і будуюцца новыя буйныя ваенныя заводы.

Адбываецца бязупыннае ўзмацненьне Японіяй арміі ў Манчжурыі і Корэі. Колькаснасьць гэтай арміі вызначаецца заграмічнай прэсай у 100—120 тыс. чал. пры некалькіх стах самалётаў.

Японія да гэтага часу ўхіляецца ад падпісаньня запрапанаванага СССР пакту аб ненападзе.

Японскія дзяржаўныя, палітычныя ваенныя дзеячы адкрыта гавораць і пішуць аб прадстаячай вайне супроць СССР. Пададзім найбольш характэрныя заявы па гэтым пытаньні: Барон Танака ў сваім мэморандуме пісаў:

> «У праграму нашага нацыянальнага росту ўваходзіць неабходнасьць зноў скрыжаваць наш меч з Расіяй. Пакуль гэты скрыты рыф на нашым шляху ня будзе ўзарваны, наш дзяржаўны карабель ня зможа быстра плысьці ўперад».

У нашай газэце «Известия» ад 4 лютага 1932 г. былі апублікаваны вельмі цікавыя дакуманты аб плянах японскіх імпэрыялістаў.

У адным з гэтых дакумантаў мы чытаем:

«Японія павінна весьці політыку з разьлікам, як мага хутчэй пачаць вайну супроць СССР. Кардыкальная мэта гэтай вайны ня стольکі ў засьцеражэньні Японіі ад комунізму, колькі ў заваладаньні Савецкім Далёкім Усходам і Сібірам».

У тым-жа дакуманце далей гаворыцца:

«Зразумела нам трэба ажыцьцявіць прасоўваньне да Байкальскага возера. Японія павінна будзэ ўключыць Далёкаўсходні край поўнасьцю ў склад імпэрыі. Нам трэба будзе ўцягнуць заходніх суседзяў і іншыя дзяржавы ў вайну з СССР, і выклікаць распад СССР шляхам скарыстаньня белых груп унутры і зьне саюзу, інародцаў і ўсіх антысавецкіх элемэнтаў».

Яшчэ больш адкрытае прызнаньне мы знаходзім у японскай прэсе. У майскім нумары газэты «Ніхон» нейкі Комаіцы адкрыта піша, што

«радыкальнае вырашэньне маньчжурскай проблемы залежыць ад вырашэньня сібірскай проблемы. Адзіны сродак дапамагчы Японіі— гэта адкрыць дзьверы ў Сібір».

Падобных заяў можна было-б падаць вельмі шмат, але пытаньне і так зьяўляецца ясным. Японскі ім-

пэрыялізм у пошуках выхаду з крызісу гатоў ісьці на пралом. Няма ніякіх прызнакаў таго, што Японія цяпер адмаўляецца ад гэтых сваіх заваёўніцкіх плянаў. Яна імкнецца разьвязаць вайну супроць СССР і аднача-сова, карыстаючыся слабасьцю Кітаю, узмацняецца за яго лік, зьбірае і організоўвае сілы для разгрому кітайскай рэволюцыі і ў той-жа час рыхтуецца да вайны з ПАЗШ.

## ЯК ЗМАГАЮЦЦА ПРАЦОЎНЫЯ МАСЫ, КАПІТАЛІСТЫЧНЫХ КРАІН СУПРОЦЬ НОВАЙ ІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНАЙ ВАЙНЫ І АНТЫСАВЕЦКАЙ ІНТЭРВЭНЦЫІ

У абсягу эпгываеннай работы компартыі дасягнулі раду посьпехаў. Работа комуністаў у арміі ў радзе краін значна палепшылася. Цэнтральны орган КП Францыі і «Юманітэ» з нумару ў нумар публікуе салдацкія корэспондэнцыі, апісваючыя рэволюцыйныя выступленьні салдат французскай арміі.

Ёсьць факты, калі салдаты адмаўляюцца ад выкананьня службовых абавязкаў, ад ваенных заняткаў, ад удзелу ў стралковых занятках. Салдаты выстаўляюць рад элемэнтарных

ДЛЯ ЗАЎВАГ

эканамічных патрабаваньняў, як напрыклад: водпускаў, спабжэньня, санітарных умоў і т. д. За адно толькі першае паўгодзьдзе гэтага году ў гэтым руху ў францускай арміі прынялі ўдзел тысячы салдат. Асабліва шматлікімі былі такія выступленьні салдат у часе манэўраў.

Салдаты самі апісваюць, як іх рыхтуюць ня толькі да новай імпэрыялістычнай вайны, але адначасова і да грамадзянскай вайны, да падаўленьня рэвалюцыйнага руху.

Вялікіх посьпехаў у антываеннай рабоце дабілася японская компартыя. Ёй асабліва цяжка праводзіць гэтую работу, паколькі КПЯ працуе ў выключна цяжкіх умовах падпольля.

Японская армія выхоўваецца ў духу самага зоолёгічнага нацыяналізму. І ўсё-ж, ня гледзячы на ўсе гэтыя цяжкасьці, компартыя Японіі вядзе бліскучую работу ў арміі і флёце. З першага-ж дня окупацыі Манчжурыі японскім імпэрыялізмам КПЯ дала правільную ацэнку японскай вайне.—Японскія салдаты на фронце! Братайцеся з кітайскімі салдатамі; абараняйце рэвалюцыйны Кітай і Чырвоную армію! Абараняйце Савецкі саюз! Далоў японскі імпэрыя-

лізм! Няхай жыве Савецкі Кітай! і т. д.—такія лёзунгі японскай кампартыі. КПЯ організавала сыстэматычную і ўпорную работу ў арміі, на прадпрыемствах і асабліва на ваенных прадпрыемствах і ў вёсцы. Яна організавала дэмонстрацыі протэсту супроць вайны, распаўсюджвала лістоўкі, організоўвала стачкі, увязвала экономічныя патрабаваньні рабочых з патрабаваньнямі салдат, як напрыклад патрабаваньне аб выплаце поўнай зарплаты кожнаму заклікаваму на вайну салдату.

Вось прыклад, як КПЯ скарыстоўвае ўсе наяўныя магчымасьці для антываеннай работы: адзін салдат вяртаецца з манчжурскага фронту і зноў пачынае працаваць на тым заводзе, дзе працаваў да прызыву. У поўнай ўпэўненасьці, што гэты рабочы павядзе патрыётычную прапаганду за барацьбу ў Манчжурыі, адміністрацыя прадпрыемства склікала агульны сход, на якім былы франтавік павінен быў выступіць з апісаньнем баёў у Манчжурыі. Рабочыя ў поўным складзе зьявіліся на гэты сход. Таксама служачыя і адміністрацыя. Аднак, салдат, які вярнуўся, нарысаваўшы об'ектыўную карціну

ДЛЯ ЗАЎВАГ

становішча на фронце сваім расказам аб тым, у якіх жудасных умовах прыходзіцца зражацца на фронце, якая няроўнасьць існуе ў снабжэньні салдат і афіцэраў, ускрыўшы ўсе злоўжываньні ў арміі, правёў тым самым бліскучую антываенную работу. Рэзультат быў такі, што рабочыя ў заключэньні мітынгу арганізавалі антываенны комітэт і пастанавілі пачаць кампанію супроць японскай інтэрвэнцыі ў Кітаі.

У рэзультаце работы КПЯ японскі гэнэральны штаб вымушан быў у часе апошняга паходу выдаліць з фронту рад ваенных адзінак, правесьці арышты і расстраляць, бо салдаты адмаўляліся ісьці на фронт страляць у ворага, бо яны выносілі рэзолюцыі супроць вайны і т. д. Зусім нядаўна на трох буйнейшых караблёх выяўлены былі комуністычныя ячэйкі. **Компартыя Японіі ва ўмовах бязьлітаснага тэрору і вайны ідзе ў самых перадавых радох Комуністычнага інтэрнацыяналу ў абсягу сваёй антываеннай работы.**

Сур'ёзныя посьпехі ў абсягу антываеннай работы мы можам адзначыць таксама ў раду іншых компартый, асабліва ў КП Польшчы,



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Чэха-Славакіі, Румыніі, Баўгарыі і т.д. У рэзультаце ўсяго гэтага за апошнія гады меў месца рад рэволюцыйных хваляваньняў у арміях многіх імпэрыялістычных дзяржаў, якіх ня бывала з часу вайны 1918 г. Сюды адносіцца паўстаньне ў англійскім флёце ў студзені 1931 г.; далей ідуць: паўстаньне ў голяндзкім флёце, рэволюцыйны рух у італьянскім, японскім флётах, а таксама ў арміях Японіі, Францыі, Чэха-Славакіі, Юга-Славіі, Італіі, Румыніі, Баўгарыі, Грэцыі, Чылі і т. д. Ужо зьяўляюцца нярэдкімі выпадкі, калі ў Польшчы, Чэха-Славакіі, у Бэльгіі і ў многіх іншых краінах ваенныя часьці адмаўляюцца страляць на дэмонструючых рабочых, падаўляць стачкі і т. д.

Таксама-ж пачалося разлажэньне ў ваенных сілах германскага імпэрыялізму. За апошні час паступаюць зьвесткі аб фактах разлажэньня ў штурмавых атрадах, факты, якія прывялі да таго, што тысячы штурмавікоў выключаны з атрадаў, амаль чатыры тысячы адпраўлены ў концлягеры, цэлыя фармаваньні распушчаны і многія штурмавікі расстраляны. Разлажэньне пачынае пранi-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

кадь у рады наёмных армій, якія павінны былі служыць апорай імпэрыялістычных дзяржаў у будучай вайне.

Але было-б няверна думаць, што гэтая непасрэдная работа ў арміі і флёце прадстаўляе адзіны абсяг антываеннай работы, праводзімай кампартыямі. Яна куды шырэй. Організацыя самай шырокай рэволюцыйнай масавай работы на прадпрыемствах, асабліва на ваенных прадпрыемствах, магутнае разгортваньне рэволюцыйнага ўздыму ва ўсіх капіталістычных краінах, падтрымка Чырвонай арміі і савецкага руху ў Кітай, стачкі з мэтай зрыву ваенных перавозак у Японію і Кітай, мобілізацыя працоўных мас на абарону СССР—такой зьяўляецца важнейшая работа, якую праводзяць компартыі для барацьбы супроць вайны і ў абарону СССР і кітайскай рэволюцыі.

Ня гледзячы на ўсе гэтыя дасягненьні ў абсягу антываеннай работы ва ўсіх краінах, мы не павінны, аднак, ні ў якім разе супакоіцца на дасягнутых да гэтага часу рэзультатах. Праробленая работа ў большасьці сэкцый далёка яшчэ не адпа-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

вядае наяўным магчымасьцям. Таму XII пленум ВККІ зьвярнуў асобую ўвагу на яшчэ недастатковую актыўнасьць компартый на важнейшых ваенных прадпрыемствах, у партох, чыгуначных цэнтрах. XII пленум ВККІ запатрабаваў ад усіх сэкцый самых энэргічных мерапрыемстваў для перамаганьня ўсіх гэтых слабасьцяй.

Барацьба супроць вайны павінна весьціся ў цесным спалучэньні з масавай рэволюцыйнай работай і з няўхільным захоўваньнем ленінскіх указаньняў па гэтым пытаньні. Цяпер як ніколі выяўляюцца справядлівымі і актуальнымі ленінскія засьцеражэньні супроць спрашчэнства ў разуменьні антываеннай работы, яго наказ дэлегатам на конфэрэнцыю ў Гаагу (1923 год) аб тым, як «вялікая тая тайна, у якой нараджаецца вайна».

Пролетарскія рэволюцыянэры павінны ўмець выкрываць розныя махінацыі імпэрыялістаў і перашкаджаць рабоце самых хітра замаскаваных зьвеньняў буржуазнай ваеннай машыны. Яны павінны ўмець скарыстаць для антываеннай работы ўсіх сумленных і разважлівых людзей, удзельнікаў антыфашысцкага і антываеннага кантрэсаў.



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Рэволюцыйную барацьбу супроць вайны працоўныя масы вялі і вядуць пад кіраўніцтвам **адзіных** партый, вядучых барацьбу за клясавыя інтарэсы пролетарыяту і прыгнечаных усіх краін,—комуністычных партый III Комуністычнага інтэрнацыяналу.

Соцыял-дэмократыя — агентура буржуазіі ў лягеры рабочай клясы, і пасьпяховасьць барацьбы супроць імпэрыялістычнай вайны і антысавецкай інтэрвэнцыі ў значнай меры залежыць і ад таго, у якой меры нашы партыі і сьвядомыя рабочыя вядуць барацьбу з соцыял-дэмократыяй, якая зьяўляецца прыладай падрыхтоўкі гэтай вайны.

**У падрыхтоўцы вайны і антысавецкай інтэрвэнцыі соцыял-дэмократыя стаіць на баку буржуазіі і перш за ўсё на баку** сваёй «айчыннай» буржуазіі. У 1914 г. соцыял-дэмократыя з разгорнутымі сьцягамі перайшла ў лягер буржуазіі. Няма ніякага сумненьня, што і ў будучай вайне с.-д. будуць выконваць такую-ж прадажніцкую ролю ў адносінах да рабочай клясы і будуць такімі-ж вернымі халопамі імпэрыялістаў, як і ў вайне 1914—1918 г. г.

Па меры ўзмацненьня ваеннай небясьпекі, гэта становіцца ўсё больш і больш ясным самым шырокім масам пролетараў. Ва ўсіх краінах соцыял-дэмократыя адхіліла прапановы компартый аб сумеснай барацьбе супроць вайны і фашызму. Ужо цяпер яўна выяўляецца далейшы развал ІІ Інтэрнацыяналу. У Эўропе цяпер рэзка процістаяць адзін аднаму два блёкі — вэрсальскі і антывэрсальскі. Соцыял-дэмократыя ў кожнай краіне выступае за, або супроць перагляду вэрсальскага мірнага дагавору разам са сваёй буржуазіяй. У Германіі соцыял-дэмократычная фракцыя рэйхстагу, пад старшынствам Вэльса, заявіла, што яна цалкам і поўнасьцю падтрымлівае зьнешнюю політыку германскага фашызму, г. зн. політыку новых захватніцкіх войн, у першую чаргу накіраваную супроць СССР.

Яскравым прыкладам адносін соцыял-дэмократыі да імпэрыялістычнай вайны зьяўляецца вайна на Далёкім Усходзе. Японская соцыял-дэмократыя адкрыта пайшла ва ўслужэньне да японскага імпэрыялізму, дапамагаючы яму гнаць масы ў акопы. Соцыял-дэмократычныя партыі



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Заходняй Эўропы заклікалі рабочых замест актыўнай рэволюцыйнай барацьбы цалкам пакласьціся на Лігу нацый і пакт Келёга.

Адначасова старшыня II Інтэрнацыяналу Вандэрвэльдэ падаў сыгнал да кампаніі супроць Савецкага саюзу, пад лёзунгам барацьбы супроць «чырвонага імпэрыялізму» і т. д. Гэты соцыял-фашыст пісаў:

> «Паводле апошніх зьвестак азіяцкая Расія намерана пасьля падначаленьня маленькай Грузіі захапіць частку Манчжурыі».

У дзень пачатку процэсу супроць англійскіх інжынэраў-шкоднікаў англійскі соцыял-дэмократычны «рабочы» правадыр Брэйльсфорд адкрыта падтрымаў англійскі ўрад. Калі 30 студзеня Гітлер у Германіі быў назначан рейхсканцлерам і фашысты пачалі шалёны тэрор супроць компартыі і рэволюцыйнага крыла рабочай клясы,—чэха-славацкая соцыял-дэмократыя і Троцкі хацелі спровакаваць СССР на вайну з Германіяй.

Пад старым лёзунгам «супроць «чырвонага імпэрыялізму» соцыял-дэмократы ва ўсіх краінах дапамагаюць саботаваць справу раззбраеньня і паскараць узбраеньне супроць Савецкага саюзу. Праз сваю політыку

«прымірэньня народаў» — яны стараюцца палегчыць стварэньне адзінага фронту супроць Савецкага саюзу.

На сьмерць і на жыцьцё зьвязаная з сусьветным імпэрыялізмам соцыял-дэмократыя кожнай краіны прысьвяціла сябе цалкам і поўнасьцю служэньню інтарэсам сваёй буржуазіі ў яе пошуках капіталістычнага выхаду з крызісу.

## ЯК ЗМАГАЕЦЦА САВЕЦКІ САЮЗ ЗА МІР І ЯК ЁН УМАЦОЎВАЕ СВАЮ АБАРОНУ

У складанай абстаноўцы міжнародных супярэчнасьцяй, у атмосфэры шалёных ваенных падрыхтаваньняў, ахутаных туманам раззбраенчых размоў, буржуазнай і соцыял-фашысцкай хлусьні і фашысцкай дэмагогіі, ва ўмовах прычудлівай ігры сусьветных імпэрыялістычных сіл, перад тварам узрослай ваеннай небясьпекі Савецкі саюз зьяўляецца адзінай у сьвеце краінай, вядучай сапраўдную політыку міру, бо ён не падвержан крызісу, а расьце нябачанымі ў гісторыі тэмпамі і ўмацоўвае з кожным месяцам сваю экономічную, політычную і ваенную магутнасьць.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Ён зьяўляецца адзінай краінай, для якой політыка міру ня служыць сродкам маскіроўкі сваіх тайных захватніцкіх намераў (як гэта мае месца ў імпэрыялістаў), бо ніякіх захватніцкіх намераў у яго няма. Ён зьяўляецца міжнароднай пролетарскай крэпасьцю, якая мае сваіх абаронцаў і прыяцеляў ва ўсім сьвеце.

У адрозьненьне ад усіх капіталістычных краін толькі Савецкі саюз вядзе нязлушчную, **сапраўдную** барацьбу за мір. На Жэнэўскай конфэрэнцыі па раззбраеньні (якая зьяўляецца па сутнасьці найлепшым прыкрыцьцём падрыхтоўкі імпэрыялістаў да вайны), СССР ня раз прапанаваў поўнае і ўсеагульнае раззбраеньне.

Гэтая прапанова, як і прапанова аб частковым скарачэньні ўзбраеньняў прадстаўнікамі капіталістычных краін была адкінута.

Вялікай перамогай тэй політыкі міру, якую вядзе краіна будуючагася соцыялізму, зьяўляецца прыняцьце большасьцю дэлегацый у Жэнэве данага савецкай дэлегацыяй азначэньня нападаючага боку (акрэсора), якое з дастатковай паўнатой і яснасьцю выступае супроць усякіх спроб

узаконіць гвалт і захоп чужых тэрыторый.

Яшчэ большай перамогай зьяўляецца падпісаньне СССР у Лёндане трох конвэнцый з дзесяцю краінамі аб увядзеньні ў дзеяньне ў адносінах паміж усімі гэтымі краінамі савецкага азначэньня агрэсора.

І ў Жэнэве і ў Лёндане прадстаўнікі Краіны саветаў выкрываюць усякія махінацыі імпэрыялістаў па падрыхтоўцы новай крывавай бойні, новай інтэрвэнцыі супроць СССР, паказваюць працоўным усіх краін сапраўдных падпальшчыкаў вайны.

Падпісаньне лёнданскіх конвэнцый паказвае, што малыя дзяржавы бачаць у асобе СССР барацьбіта супроць усякіх імпэрыялістычных нашэсьцяў або махінацый вялікіх імпэрыялістычных дзяржаў.

Кіруючыся інтарэсамі вялікай, соцыялістычнай будоўлі, інтарэсамі ўмацаваньня гэтай міжнароднай рэвалюцыйнай цытадэлі, савецкі ўрад і партыя скарыстоўваюць кожную магчымасьць для барацьбы за мір, для прадаўжэньня мірнай перадышкі.

Але з тэй прычыны, што капіталісты лічацца і размаўляюць толькі з тым, хто зьяўляецца моцным; з тэй

прычыны, што яны зусім не пакінулі сваіх плянаў паўторнага прашчупваньня СССР штыхом; з тэй прычыны, што яны, як і раней, і нават больш, чым раней, шукаюць згоды на базе антысавецкіх комбінацый, то Савецкаму саюзу прыходзіцца захоўваць самую вялікую зоркасьць і пільнасьць,

СССР прыходзіцца ўдзяляць сур'ёзную ўвагу і ўмацаваньню сваёй абароназдольнасьці. Уся Савецкая краіна, кіруемая лепшай пролетарскай партыяй бальшавікоў і самым вялікім правадыром т. Сталіным, падтрымлівае савецкі ўрад у яго барацьбе за мір і адначасова за ўмацаваньне абароны СССР.

Савецкая краіна, якая здолела з адсталай, аграрнай, малакультурнай стаць перадавой у тэхнічных адносінах, ужо цяпер уладае магутнай базай для пераможнага адпору **любому** ворагу. Ужо цяпер яна здолела аснасьціць сваю Рабоча-Сялянскую Чырвоную армію ўсімі сучаснымі сродкамі барацьбы.

І капіталісты ўсіх краін

> **«разумеюць, што з намі жартаваць цяпер нельга, таму што мы ўжо маем ня толькі простае ўзбраеньне, але мы ўзброены таксама но-**



ДЛЯ ЗАЎВАГ

вымі тэхнічнымі прыладамі абароны—танкамі і аэроплянамі. І мы можам вытвараць усе гэты прылады абароны, калі гэта спатрэбіцца, і ў вялікай колькасьці. Вайны мы ня хочам, але калі на нас капіталісты выпусьцяць свае аэропляны, танкі, то мы ўжо небяззбройны, мы здолеем на іх аэропляны выпусьціць свае аэропляны, на іх танкі—свае танкі, на іх броневікі мы выставім колёны сваіх соцыялістычных магутных броневікоў» (Кагановіч).

Гэтыя сродкі барацьбы СССР можа вытвараць, як указаў т. Варашылаў у дакладзе аб выніках студзеньскага аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК, з сваіх савецкіх матэрыялаў, на сваіх савецкіх заводах і рукамі сваіх савецкіх інжынэраў і рабочых-спэцыялістаў. Гэтыя сродкі Чырвоная армія мае ў дастатковай колькасьці для сучасных ваенных маштабаў. Яна ўжо цяпер мае сучасныя кулямёты і гарматы ўсіх відаў і калібраў, яна далёка зрабіла крок уперад у абсягу танкавай справы, яна ўладае магутнай лёгкай і цяжкай авіяцыяй, багатым аўтатранспортам, самаходнай артылерыяй, сродкамі хімабароны, яна рушыла ўперад у справе тэхнічнай рэконструкцыі і свайго флёту, а таксама

ў справе ваенна-інжынэрнага ўмацаваньня найбольш адказных вучасткаў абшырных савецкіх граніц.

«Выканаўшы пяцігодку ў чатыры гады, мы, таварышы, да будзёнаўскай кавалерыі дадалі яшчэ «кавалерыю» тэхнічную, «кавалерыю» лятаючую, поўзаючую, плаваючую, і ныраючую, «кавалерыю», якая здолее разьбіць ворага, калі ён пасьмее напасьці на нашу вялікую соцыялістычную краіну» (Кагановіч).

На сёньняшні дзень Чырвоная армія, маючая ў сваіх радох звыш 60 проц. комуністаў і комсамольцаў, мае вялізарныя магчымасьці у абсягу вядзеньня складанага бою і опэрацыі. Яна мае нямалыя посьпехі ў сваёй баявой і палітычнай падрыхтоўцы і разам з рабочай клясай і колгаснным сялянствам вялікай краіны крок за крокам авалодвае сучаснай тэхнікай, якую дала ёй у рукі соцыялістычная індустрыя.

Таму Савецкі саюз, праводзячы цьвёрдую політыку міру, у той-жа час мае ўсе падставы заявіць словамі т. Сталіна:

«ні адной пядзі чужой зямлі не хочам, але і сваёй зямлі, ні аднаго вяршка сваёй зямлі, не аддамо нікаму».

Імпэрыялісты, якія адважацца

ДЛЯ ЗАЎВАГ

напасьці на Савецкі саюз, прыдзецца пераканацца ў справядлівасьці слоў праваднра Чырвонай арміі т. Варашылава аб тым, што **ў выпадку нападу на СССР Чырвоная армія перанясе барацьбу на тэрыторыю праціўніка.**

Побач са сваімі ўнутранымі сіламі Савецкі саюз карыстаецца магутнай падтрымкай міжнароднага рэволюцыйнага пролетарыяту і яго саюзьнікаў. Цяпер, насуперак хлусьлівай ацэнцы соцыял-фашыстаў і троцкістаў, прадаўжаючых аказваць ганебныя ўслугі буржуазіі і прымаючых актыўны ўдзел у антысавецкіх паклёпніцкіх выступленьнях і пропагандзе, міжнародны пролетарыят, у прыватнасьці ў Германіі, не разьбіт, яго компартыя не разгромлена, але зьбірае сілы для хуткага рашучага бою з капіталізмам.

Барацьба за рэволюцыйны выхад з крызісу разгортваецца, хоць і няроўнамерна ва ўсіх капіталістычных краінах. Буржуазія, мобілізуючая свае апошнія фашысцкія рэзэрвы, няздольна разьбіць рэволюцыйны фронт. Фронт гэты мацнее, хоць і ня ўсюды аднолькава быстра і трывала, у многіх краінах Эўропы—Гер-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

маніі, Польшчы, Іспаніі, Румыніі, Баўгарыі, Юга-Славіі. Рэволюцыйная барацьба шырока разгортваецца і ў Кітаі.

Закончыўся правалам 5-ы паход Чан Кай-шы супроць чырвоных, паход, які цягнуўся цэлых восем месяцаў, паход, у якім з боку Чан Кай-шы прымала ўдзел 86 дывізій гоміндана ўскіх войск, колькасна сцю ў 650 тыс. супроць 100—120 тыс. чырвоных. Чырвоныя арміі і савецкі рух ня толькі адстаялі свае асноўныя базы, але і атрымалі новыя савецкія раёны.

За апошні час зноў узмацнілася антыяпонская барацьба ў Манчжурыі, але з тэй розьніцай супроць мінулага году, што гэтая барацьба вядзецца цяпер не генэральскімі войскамі, а партызанскімі атрадамі, сярод якіх усё больш моцна і дзейсна адчуваецца ўплыў савецкага руху ва Ўнутраным Кітаі і кіраўніцтва кітайскай і корэйскай компартый. Сярод 70-тысячнай масы партызанскіх атрадаў ужо вызначылася група атрадаў, называючых сябе чырвонай арміяй і ідучых пад лёзунгамі агарарнай і антыімпэрыялістычнай рэволюцыі. Узмацніўся нацыянальна-рэволюцый-

ны рух у важнейшай японскай колёніі—Корэі. У самой Японіі растуць прызнакі надыходзячага рэволюцыйнага выбуху. Уплыў рэволюцыйнага ўздыму адчуваецца і ў асяродзьдзі японскіх салдат і матросаў.

Такім чынам, супроць імпэрыялістычнага контррэволюцыйнага фронту, рыхтуючага новыя войны, дзейнічаюць магутныя рэволюцыйныя сілы, перашкаджаючыя капіталістам ажыцьцявіць іх крывавыя пляны.

З боку рабочай клясы і працоўнага сялянства СССР пяты міжнародны антываенны дзень павінен выклікаць уздым інтэрнацыянальнай солідарнасьці і соцыялістычнага энтузіязму на выкананьне колькасных і якасных паказальнікаў прамфінпляну 1-га году другой пяцігодкі, узорнае правядзеньне ўборачнай і збожжазагатоўчай кампаніі, павышэньне клясавай пільнасьці і зоркасьці да ўсякага роду манэўраў клясавага ворага. Гэта яшчэ больш умацуе СССР і прымусіць імпэрыялістычных падпальшчыкаў вайны быць больш асьцярожнымі ў сваіх варожых Савецкаму саюзу провокацыйных плянах.

Гэта дасьць яшчэ больш моцную [illegible] рэволю-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

цыйнаму фронту і дапаможа яму дабіцца перамогі ў барацьбе супроць фашызму, супроць вайны, супроць прагніўшай, але заўзята вядучай барацьбу за захаваньне свайго панаваньня, буржуазнай дыктатуры. Гэта будзе лепшым садзейнічаньнем з нашага боку барацьбе за рэволюцыйны выхад з сучаснага сусьветнага крызісу, якая вядзецца пад кіраўніцтвам Комінтэрну.



## ЧАМУ МІЖНАРОДНЫ ПРОЛЕТАРЫЯТ ПРАВОДЗІЦЬ АНТЫВАЕННЫ ДЗЕНЬ 1 ЖНІЎНЯ

1 жніўня 1933 году споўняецца 5 год, як мільёны рэволюцыйных рабочых па ўсім сьвеце ўпяршыню правялі па заклiку Комуністычнага інтэрнацыяналу міжнародны антываенны дзень 1 жніўня.

У 1928 г. на VI конгрэсе Комінтэрну было прынята рашэньне ўстанавіць пэўны дзень барацьбы супроць растучай небясьпекі новай імпэрыялістычнай вайны.

У 1929 г. X пленум Комінтэрну, згодна прапановы Брусэльскай конфэрэнцыі 13 комуністычных партый, ўстанавіў усеагульны антываенны

дзень 1 жніўня, г. зн. дзень узьнікненьня першай сусьветнай вайны.



Правядзеньнем гэтай пастановы Комуністычны інтэрнацыянал выконвае адну з важнейшых задач, пастаўленых Леніным перад Комінтэрнам, а іменна: няспынна клапаціцца аб тым, каб рабочыя ва ўсім сьвеце ніколі не забывалі надыходзячай небясьпекі імпэрыялістычных войн.

Антываенны дзень быў устаноўлен для таго, каб шляхам дэмонстрацый, стачак, актыўных выступленьняў мас на вуліцах і на прадпрыемствах, мобілізаваць працоўныя масы ўсяго сьвету на барацьбу супроць растучай небясьпекі новых імпэрыялістычных войн і інтэрвэнцый супроць СССР.

Антываенны дзень павінен мобілізаваць працоўных і прыгнечаных усіх краін на актыўную рэволюцыйную барацьбу супроць капіталістычнай сыстэмы, няўхільнёна парараджаючай імпэрыялістычныя войны.

Ужо першы антываенны дзень у 1929 г. выліўся ў магутную дэмонстрацыю рэволюцыйнага пролетарыяту.

З гэтага часу першажнівеньскія антываенныя дэмонстрацыі набывалі

гаргулава мэу мэтай выклікаць вайну супроць Савецкага саюзу. Усе гэтыя гады прайшлі пад знакам абвастрэньня ўнутранай барацьбы ў імпэрыялістычным лягеры. Фактычна вайна ўжо адбываецца ў Кітаі, у Паўднёвай Амэрыцы і т. д.

XII пленум ВККІ констатаваў канец адноснай стабілізацыі капіталізму і пераход на новага туру рэволюцый і войн. Гэты рашаючы тэзіс пацьвердзіўся поўнасьцю. Ніколі яшчэ небясьпека новых імпэрыялістычных войн і інтэрвэнцыі супроць СССР ня была такой сур'ёзнай, як цяпер. Асабліва гэта падкрэсьліваюць падзеі на Далёкім Усходзе і прыход да ўлады агалцелай фашысцкай рэакцыі Гітлера ў Германіі. Тым большае значэньне набывае таму ў бягучым годзе антываенны дзень 1 жніўня, як сымболь самай энэргічнай барацьбы ўсіх рэволюцыйных сіл сьвету супроць ваеннай небясьпекі, супроць нападу на Савецкі саюз, на абарону СССР і кітайскай рэволюцыі.

---

**Пераклад з «Блёк-нота» № 17 выданьня Агітмасавага аддзелу МАК і МГК УсеКП(б).**